Цана асобнага нумару 10 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 42. Вільня, Субота 4 Сьнежня 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Выходзе два разы у тыдзень — у сераду і у суботу нараніцы.

Адрэс Рэдакцыі й Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

**Падпіска:**
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы у двая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі.

**Цана абвестак:**
на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку уваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Дамагаемся амністыі політычным вязьням.

Хто ня знае нашага гаротнага й ненормальнага жыцьця пад Польшчаю? Знаюць яго ўсе чыста, бо апрача т. зв. нацыянальных меншасьцяў загаманілі аб гэтай ненормальнасьці навет Палякі. Даволі зірнуць у польскія газэты, асабліва кірункаў хоць крышку протэндуючых на дэмократычнасьць, каб аб гэтым пераканацца. Даведалася аб гэтым і заграніца. Калі мы крычым аб гэтай ненормальнасьці, дзеля таго што нам баліць, дык Палякі закрычэлі аб ёй із страху за сваё гаспадарства, бо ненормальнасьць ужо па дзеля свае істоты вечне трываць ня можа, калісь мусіць настаць канец, а зь ім разам прыйдзе канец і на тых, хто гэтаю ненормальнасьць стварыў і яе ўдзержуе. А стварыла гэтую ненормальнасьць у нас польская політыка, імкнучыся да нацыянальнага зьністожаньня Беларускага Народу. Заданьні польскае політыкі праводзіла польская адміністрацыя, а памагала ёй троха ўсё польскае грамадзянства. Вынікам усяго гэтага ў нас стварылася такое пекла, у якім навет такія цярплівыя людзі як Беларусы ня ўсе змаглі цярпліве пячыся. Адгэтуль пайшлі малыя й вялікія „праступкі“ проці польскае гаспадарсьцьвенасьці, „праступкі“ людзёў у 99 проц. вінных толькі тым, што яны болей любілі свабоду, як рэшта іхніх братоў. Але гэтых людзёў тысячамі арыштовавалі, мучылі, садзілі ў турмы, потым судзілі і ўзноў варочалі ў турмы. Зьвярнуўшы толькі ўвагу на адно нарушэньне імі законаў гаспадарства, выглядае мо' каму, што за гэтае нарушэньне яны як-бы справядліва пакараны. Але гэтак можа здавацца толькі палітычне нявіснюму (сьляпому). Хто ўмее лучыць факты з іх прычынамі, той гэтага ніколі ня скажа. Ясна, што да нарушэньня законаў гаспадарсьцьвеных мусіла прыйсьці, калі былі нарушаныя законы агульна-людзкія.

Але жэртвы гэтага нарушэньня агульна людзкіх законаў мучаюцца дагэтуль. Мучаюцца, але ўжо ня ўсе; шмат хто ня вытрываў цяжкіх умоваў жыцьця турэмнага і даўся. У гэтым нумары мы друкуем смутнаю вестку, што Беларус Аляксандар Станкевіч памер у турме. Хто знаў Аляксандра Станкевіча да турмы, той ведае, што гэта быў мужчына здаровы як дуб. Ён быў засуджаны на Беластоцкім процэсе ў маі 1923 г. разам з паслом Сяргеем Бараном, С. Жабінскім, Верай Маслоўскай і іншымі. Я прывёў толькі адзін прыклад. Але такія прыклады можна лічыць тысячамі. Бо ці мала ёсьць такіх Станкевічаў!? І ці мала ёсьць такіх, якіх яшчэ турма ня зьела, але даядае. А ці мала ёсьць політычных вязьняў, што не зрабілі жаднага нарушэньня законаў, а лучылі ў турму з прычыны розных вялікіх ці меншых недаразуменьняў, вылічаць якіх тут ня будзем.

Простая справядлівасьць вымагае, каб усе вышменаваныя людзі былі звольненыя з турмаў і гэтым хоць часткава была папраўлена зробленая ім крыўда. Кажучы іншымі словамі, трэба амністыі політычных вязьняў.

Амністыя 1923 г. з прычыны прызнаньня Радай Амбасадараў усходніх граніцаў Польшчы зьменшыла толькі крышку кару некаторым політычным вязьням. А тых політычных вязьняў, якіх работа, на пагляд суду, была яўна ськівавана на шкоду польскага гаспадарства, гэта амністыя зусім не датычыла.

Сёлета ізноў маем якбы амністыю, але яна мала мае супольнага з амністыяй запраўднай. Гэта амністыя так званая індывідуальная. Паводле яе асвабаджаецца ад кары або змяншаецца кара таму політычнаму вязьню, каторага прокурор прадставіць на амністыю. А прокурор гэта робіць звычайна на прадстаўленьне турэмнай улады. Ведама, што гэтакая амністыя можа абняць толькі невялічкаю жменьку людзёў, а рэшта політычных вязьняў астаецца гніць у турмах паранейшаму.

Дык у імя справядлівасьці, у імя людзкасьці, мы дамагаемся запраўднай амністыі, якая-бы абняла агулам усіх чыста політычных вязьняў.

*Максім Прынскі.*

## „Крэсовы“ цыркуляр мін. прасьветы.

19-га лістапада кіраўнік польскага міністэрства рэлігійных вераваньняў і публічнае прасьветы віцэ-прэм'ер п. Бартэль разаслаў віленскаму, беластоцкаму, палескаму і валынскаму школьным куратарам цыркуляр, якім праўду трэба сказаць, як-бы й асуджана асталося дасюлешняя школьная палітыка польскіх урадаў на беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх землях Польскае Рэспублікі.

Але што новае ён нясе з сабою? Якія могуць быць зьмены ў школьнай політыцы?

На гэтыя пытаньні выразнага адказу цыркуляр міністра Бартэля зусім не дае. Цыркуляр напісаны гэткаю павучальнаю профэсарскаю мовою, гэтак шмат у ім агульнага філёзофаваньня аб „абыватэльстве“ і польскай дзяржаўнасьці, што ніяк ня вычытаеш адказу на гэтак яснае для нас пытаньне: думае ўрад аб беларускіх школах, утрымліваных дзяржаўным коштам, ці не?

Уражаньне ад цыркуляру такое, што ўрад аб гэтым ані ня думае. Адно ясна, што школьным інспэктарам і настаўнікам міністар загадвае мець пашану да мясцовае мовы, культуры і традыцыяў. Гаворыцца таксама і аб паразуменьні з дзяцьмі пры пачатковым навучаньні ня ў чужой, а ў роднай для іх мове. Даручаецца дбаць аб тым, каб навучаньне адбывалася ў настроі прыхільным для Польшчы і яе дзяржаўнасьці, што ў вуснах міністра зусім зразумела. Але дзіўна выглядае гэтае даручэньне тым польскім настаўнікам і тым школьным інспэктарам, якія штучным выробляньнем „прыхільных“ (ці як іх там) настрояў сапраўды можа й няраз дасягалі адваротных настрояў, аднак-жа па лініі эндэцкае дэнацыяналізацыі Беларусаў, Літоўцаў ды Украінцаў ісьці прывыклі і на іншы шлях ступіць наўрад ці маюць сілы.

Сьмешна гаварыць аб выробляньні школаю прыхільнасьці да дзяржаўнасьці, сказалі-б мы, а да польскасьці ў душах вучняў-Беларусаў, якія разам з бацькамі сваімі праходзяць усё яшчэ суровую школу жыцьця ў варунках залішняга панаваньня гэтае польскасьці. Ці-ж ня дзіўным здаецца нават і для дзіцяці беларускага, што яно проці волі сваіх бацькоў змушана хадзіць у накіненыя нам усімі ранейшымі польскімі ўрадамі (і не адмененыя дасюль урадам цяперашнім) *польскія* школы, дзе настаўнікамі *Палякі* ў той час, як вельмі часта родны дзядзька, а часам і бацька,—вучня Беларуса, быўшы большую часьць свайго жыцьця настаўнікам, мадзее цяпер на сваей убогай ральлі, як земляроб, на тэй ральлі, дзе й без яго цесна.

„Школьная адміністрацыя, — разважае п. міністар, — павінна, як трэба, зразумець, што пашыраньне польскае культуры, паглыбленьне польскае грамадзянскае думкі, выхоўваньне моладзі ў пачуцьці цэннасьці яе польскае дзяржаўнае прыналежнасьці можа добра адбывацца толькі і толькі на грунце пашаны да ўсяго таго, што складае культурныя, рэлігійныя і нацыянальныя асаблівасьці насяленьня“...

Як шанаваліся ў Польшчы ўсе гэтыя нашыя асаблівасьці, мы ведаем добра. Кожны селянін ведае, якога яго дзеці маюць настаўніка, якую школу яны маюць.

І ці-ж гэтыя польскія, часта-густа панасыланыя да нас з іншых часьцей Польшчы, настаўнікі і школьныя інспэктары, выхаваныя на папярэдняй школьнай польскай палітыцы маюць перадзіцца ад аднаго росчырку міністэрскага пяра ды адразу набыць патрэбнае пашаны да беларускіх асаблівасьцяў?

Нельга ўліваць новае віно ў старыя мяхі!

Калі-б мела наступіць рашучая зьмена польскае школьнае палітыкі ў адносінах, як да нас, так і да Украіцаў і Літоўцаў, дык мусіла-б яна пачацца з простае зьмены школьнае адміністрацыі, ад вызначэньня Беларусаў на кіраўнікоў школьных установаў на нашых землях.

Што гэткае вялікае зьмены, як відаць, ня будзе, гэта зусім ясна.

Гаворыцца ў цыркуляры, што *польская мова ня можа быць сьпіхненаю на другі плян*... трэба разумець—у пачаткавай школе. Якая-ж тады мова павінна быць выкладоваю ў тэй школе, дзе вучні—Беларусы?

У цыркуляры п. міністра на гэта адказу няма. Цыркуляр проста загадвае настаўнікам і школьным інспэктарам—дакладнае знаёмства з мясцовымі мовамі й толькі. Гэтае „дакладнае знаёмства“—рэч ня так-то простая й тут, калі справу ставіць шырака, дык без беларускага

## Выпісывайце Сялянскую Ніву!

**З прычыны узросту ліку падпісчыкау, газета выходзе два разы у тыдзень, а цана астаецца тая самая.**

**Асобны нумар каштуе толькі 10 грошау!**

Сябра М. Ільляшэвіч у сваім даволі вялікім рэфэраце: „Аб зьмене беларускага правапісу“ зусім дакладна пазнаёміў прысутных з паглядамі сучасных беларускіх вучоных філёлёгаў, а так-жа дэлетантаў у гэтай галіне і з настроямі й тэндэнцыямі беларускай інтэлігэнцыі ў пытаньні рэформы правапісу, Сябра І. Сланеўскі, узяўшы пад увагу важнасьць, разьвязаньня пытаньня нашага назову Бел. Акад. Канфэрэнцыяй, прачытаў самастойна рэфэрат, з сэмінарнае працы ў унівэрсытэце: „Аб нашым назове“. Рэфэраты выклікалі вялікую зацікаўленасьць, што выказалася ў дыскусыях.

Кірыліца ці лацініца?

Беларусы, Крывічы ці Ліцьвіны?

э, ы, й, ці є, и, j?

Аканьне й пашырэньне яго на чужаземныя словы, вось тыя галаўныя пункты, на якія зьвярнулі ўвагу опонэнты й дакладчыкі.

Пытаньне пашырэньня лацініцы замест кірыліцы з кожным годам у нашым руху становіцца актуальнейшым. Тут заграніцай асабліва ў сустрэчах зь іншымі народамі ў прапагандный працы нашае беларускае справы ўвесь цяжар кірыліцы прыходзіцца найболей адчуваць. У Эўропе Зах., ак выказуюцца многія навет паважаныя й вучоныя людзі кірыліца лічыцца проста „азіяччынай“. І ведама, цяпер калі ня толькі Немцы, заўзятыя нацыяналістыя, шмат якія паўдзёныя Славяне, й навет орыентальныя народы, у мэтах інтэрнацыянальнага зьліжэньня заводзяць лацініцу, нам Беларусам лацініцу зусім адкідаць не выпадае. Мы ў шчасьлівейшых абставінах, бо нам лацінку заводзіць ня трэба, мы яе маем, а дзеля таго, ўзважыўшы адпаведнасьць момэнту мусім прыдаць ёй шырэйшага ужываньня; зрабіць яе раўнапраўнай з кірыліцай.

Я. Лёсік у сваіх брашурах „У справе рэформы нашае азбукі“ глядзіць даволі аднабока калі вылучае ўжываньне лацініцы бараніючы кірыліцу як нацыянальнае пісьмо й толькі.

Анолёгічна й пытаньне нашага назову. Згруба кажучы, прывесак „рускі“ да слова „Беларускі“, мусіць напэўнаж будзе зьбіваць чужніка зпанталыку пры разьлічэньні нашае нацыянальнасьці? Колькі-б мы ня вялі пропагандную акцыю, колькі-б не крычэлі аб нашых зьдзеках і крыўдах непрыяцелямі нас ня чуюць. Ад гэтага непаразуменьня ў нашым назове, з практычнага гледзішча маем, калі ня шкоду, дык прынамся многа трацім.

Зусім правільна зазначае й Я. Лёсік, што людзі набываюць прывычку й бароняць сваю прывычку, як штось ненарушнае. Дый бараніць добра свае роднае, з народу ўзятае. Слова-ж „Беларусь“ не нашага паходжаньня, а таму й ня мае таго значэньня ў яго абароне. Ужо шмат пісалася, гаварылася аб гэтым пытаньню, але канец розным спрэчкам не паложаны. Трэба думаць, што конфэрэнцыя гэтае пытаньне, высьвятліць дакладней. Газэтная палеміка часта была й ёсьць аб гэтым пытаньню тэндэнцыйная, аднабокая, асабістая, не навуковая, а дзеля таго, ня гэтулькі высьвятляе справу, гэтак актуальную, колькі яе заблытавая й не дае намысных вынікаў.

Вось чаму Скарынінскае Т-ва з самага пачатку заняло пазыцыю прыхільную пашырэньню назову побач „беларускі“, „крывіцкі“.

Заместа „й“ літара „j“ зусім магчыма. Самое напісаньне „јоту“ значна скароціць напісаньне літары, прыдасьць лепшага выгляду. А калі няма „и“, дык зусім можна згадзіцца з Я. Лёсікам, што пісаць „й“ недарэчнасьць.

Затое паводле Лёсіка завядзеньне „и“ заместа „ы“ гэта не адпавядае духу нашае мовы й не надае ей „самабытнага выгляду й прыгожасьці“, але паблізіць да ўкраінскае мовы ўплывы якое ў нас і без таго значныя. А пры выкіданьні зьмягчэньня „ь“ у падвойных літэрах можна будзе дастаць пры прыраўнаньні тэксту украінскага з беларускім тое, што мо' навет й наватар Я. Лёсік не жадаў-бы. (Гл. артыкулы „Савецкая Беларусь“ № 204 — № 215). Завядзеньне j перад а э, о у—ja, je, jo jу здавалася-б толькі заблытае правапіс а не спросьціць і скароціць. Мы й бяз гэтага маем падвойныя літары напр. „шч“.

Правядзеньне й пашырэньне аканьня на чужаземныя словы ў беларускай мове поўнасьцю аддаліць нас ад іншых моваў і зробіць чужніком вывучэньне беларускай мовы надзвычайна цяжкім, ня кажучы ужо, што й у істоце Я. Лёсік ня праў, калі так заўзята жадае поўнага правядзеньня фонэтычнага прынцыпу.

Уласныя чужэземныя іменьнікі трэба было-б імкнуць, каб падаваць у орыгінале й побач у душках пісаць фонэтычнае выслоўляваньне. Ізноў-жа дзеля выгады й тут мае лацініца сваё пяршэнства перад кірыліцай.

Аднак і лацініца ня зусім прытарнавана да беларускае мовы й патрабуе рэформы, перадусім замены „ie“ значком „ě“ напр. „Biełaruś“ „Bělaruś“ завядзеньне замест дубл. „w“ простое „v“ ды інш.

Ведама, што ў гэтай кароткай зацемцы не магчыма падаць гэтыя цікавыя пагляды й настроі беларускае студэнскае колёніі ў Празе.

Каб давясьці да ведама шырэйшых колаў беларускага грамадзянства дасьледы й пагляды гэтае невялічкае, але дужое духам і заўзятае у працы, жмені беларускае маладое інтэлігэнцыі, трэба было-б, каб былі асобна выдрукаваны Таварыствам адпаведныя публікацыі або дэлегаваны быў прадстаўнік на конфэрэнцыю. На тое першае г. зн. выданьне якое колечкі публікацыі Скарынінскае Т-ва цяпцр ужыцьцёвіць ня можа з матар'ялных нястачаў, а другое паслаць прадстаўніка на Беларускую (!) Конфэрэнцыю Беларускае(!) Скрынінскае Т-ва ня можа, бо ня мае афіцыяльнага запрошаньня. Праўда, паводле вестак з газэты „Савецкая Беларусь“, Інстытут Белар. Культуры быццам запрасіў Т-ва аднак па чыёйсь віне гэтага запрашэньня як даведываемся з пэўных жаролаў, прэзыдыум не дастаў.

Трэба думаць, што з часам, у той ці іншы спосаб, Скарынінскае Т-ва, якое заграніцай ёсьць найвялікшай й найпаважнейшай культурнай установай, выдрукуе ўсе свае працы ў сваіх беларускіх часопісях ці то ў замежных, каб не засталіся ляжаць у сховах.

*Праскі Культурнік.*

*Ад рэдакцыі*: Артыкул гэты Рэдакцыя падае, як дыскусыйны.

— Беларускае Культурнае Т-ва ім. Скарыны ў сьнежні месяцы ладзіць урачыстыя абыходзіны 20-ых угодкаў літаратурнае дзейнасьці Якуба Коласа — Канстанта Міцкевіча.

— Скарынінскае Т-ве маецца борзда выдаць літаратурны альманах.

— Пры Скарынскім Т-ва зарэгістраваны гурток беларускіх пчаляроў „Райніца“.



— У Таварыстве выдзелена сэкцыя перакладчыкаў на беларускую мову розных сярэдняшкольных падручнікаў і прыгожага пісьменства.

— 9 лістападу памер перадчаснаю сьмерцяй на сухоты дзейны сябра Скарынінскага Т-ва, студ. мэд. Аляксей Дзілендзік.

— Скарынінскае Т-ва залегалізавана пры Аб'яднаньню Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў у Празе.

# НАВІНЫ.

— **Мэморыял Акружнай Камісыі профэсыяльных саюзаў у Вільні.** Як Пілсудскі быў у Вільні, Акружная Кам. профэсыянальных саюзаў падала яму мэморыял гэтакага зьместу:

Да пана старшыні Рады Міністраў. Шырыцца ў Вільні безрабоцьце, якога ніхто з нас ня бачыў ад пачатку вайны. Найбольшы дзераўляны промысл, каторы даваў работу каля 2000 людзём і гарбарскі, што ўдзёржаваў каля 500 работнікаў цяперака многа зьменшыўся. Дробны промысл і рамёслы цярпяць крызыс. Лічба безработных зарэгістраваных у П. У. П. П. даходзе да 5 тыс. асобаў. Цяпер калі падыходзе зіма й адходзяць сэзановыя работы, як будаўляныя, дарожныя, водныя і іншыя; лічба гэтая яшчэ болей пашыраецца. У сувязі з безрабоцьцем павялічуецца лічба хворых і ўміраючых сярод безработных, а асабліва страшна яна выглядае сярод дзяцей. Школьная статыстыка падае, што лічба дзяцей яўна сухотных дасягае 15 проц., а дзяцей з пачаткам сухотаў сягае да 60 проц. Калі зьвярнуць увагу як работніцкае насяленьне пацярпела ў часе окупацыі бальшавіцкай і нямецкай, дык выйдзе, што ні адно места ў Польшчы ня мела так вялікіх ахвяраў як Вільня.

Каб хоць часткава даць работу безработным, Самаўрад м. Вільні ўвёў, карыстаючы з пазыкаў, якія даў Скарб гаспадарства каналізацыйныя й вадаводныя работы, даючы работу блізка 400 безработным. У іншых местах Польшчы, гдзе таксама сьвірапее безрабоцьце, справа гэтая пастаўлена шмат лепей. Напр. м. Варшава, маючы каля 12 тыс. безработных, дала работу блізка 3 тыс. людзёў, пазычаючы ў Скарбе па 1 міл. зал. што месяц. Львоў бярэ пазыкі каля 200 тыс. зл. на месяц. Толькі Вільня дастае ўсяго 80 тыс. зл. на месяц. А цяпер здаецца будзе паменшаная й гэтая сума, і Магістрат зьменшуе на палавіну тую малаю лічбу работнікаў, што цяпер удзержуе.

Бяручы на ўвагу цяжкое матэр'яльнае палажэньне безработных і іхніх сем'яў Прэзыдыум Акружной Камісыі Профэсыанальных Саюзаў Віленшчыны зварачуецца да пана прэзэса Рады Міністраў з просьбай выданьня загаду:

1) Як найскарэйшага асыгнаваньня большых пазыкаў на рух работы каналізацыйнай і вадаводнай у м. Вільні,

2) асыгнаваньне пазыкаў на дакармляньне дзяцей безработных;

3) асыгнаваньне пазыкаў на выдаваньне ў зімовых месяцах ежы й апалу безработным“.

Як бачым, варшаўскі ўрад на Вільню не зварочуе ўвагі і можна сумлявацца, ці з просьбы камісыі будзе якая карысьць.

— **Зацьверджаньне арышту.** Каральны Адзьдзел Акружнога Суду зацьвердзіў арышт, наложаны на № 28 літоўскай газэты „Vilniaus Aidas“ за надрукаваньне артыкулу аб амністыі.

**Прысылайце грошы на падпіску.**

та здаралася прайсьці пехатою чатыры льё па палючаму сонцу, каб пабачыць яе ў гаспадароў, дзе яна рабіла, і тут, ля яе, ён праседжаваў даўгія гадзіны, увесь час на яе гледзячы й плачучы...

Людзі ў нас думалі, што стары млынар дзеля свае скупасьці аласлаў ад сябе Вівэту, і ганілі яго, што ён дазволіў, каб малая вось гэт'кім спосабам цягалася ад засьценка да засьценка. Лічылі таксама вельмі благім, так што чалавек зь імем дзядзькі Карніля, якое да таго часу было ў паважаньню, цяпер праходзіў па вуліцох, як запраўдны цыган, босы, у падзертай шапцы, у вопратцы з лахманоў... Факт той, што ў нядзелю, калі мы бачылі, што ён уваходзіць на набожнасьць, нам, старым, нам рабілася сорамна за яго; і Карніль гэта разумеў так добра, што не адважаваўся болей прайсьці наперад сесьці на лаўцы. Заўсёды ён заставаўся пры ўваходзе ў царкву, каля крапільніцы, разам із жабракамі.

У жыцьцю дзядзькі Карніля была адна рэч вельмі няясная. За апошні доўгі час ніхто ў вёсцы балей не прывозіў яму малоць збожжа, а аднак-жа крыльле яго млына круцілася заўсёды, як і раней... Увечары старога млынара сустракалі па дарогах, як ён паганяў свайго, натрочанага вялікімі мяхамі з мукой, асла.

— Добры вечар, дзядзька Карнілю! Знаць, заўсёды справы ідуць добра ў млыне? Крычэлі яму сяляне.

— Заўсёды, заўсёды, мае дзеткі, адказаваў стары зь вясёлым выглядам. Дзякуй Богу! працы нам стае.

Калі-ж яго пыталіся, ад якога дзьябла можна мець толькі працы, ён клаў сабе палец на губы і адказаваў важна:

— Ціш, цыц! я працую на вываз заграніцу...

Ніколі ад яго ня можна было выцягнуць балей.

Аб тым, каб паткнуцца носам у яго млын, ня можна было навет і сьніць. Маленькая Вівэта і тая не ўваходзіла ў яго...

Калі хто праходзіў каля млына, бачыў заўсёды зачыненыя дзьверы, вялізныя крылы бязупынна ў руху, старога асла, што скуб на ўзьездзе траву, ды вялікага худога ката, які, седзячы на рабярцы вакна, грэўся на сонцу і глядзеў на вас злым паглядам.

Усё гэна пахла таямніцай і змушала людзёў шмат баўтаць рознага. Кожны высьняў сэкрэт дзядзькі Карніля пасвойму, але агульная чутка была, што ў млыне гэным яшчэ было балей мяхоў з грашмі, чымся з мукой.

З часам, аднак-жа ўсё высьвятлілася. І вось якім спосабам.

(Далей будзе).

# З Польшчы.

### У Сойме.

Пасьля „маёвага перавароту“ усёй дзяржавай кіруе ўрад мала аглядаючыся на Сойм. У Сойме цяпер ціха, вельмі рэдка бываюць пленарныя паседжаньні. Адна Бюджэтная Комісыя працуе над бюджэтам, але яе праца ня мае вялікага значэньня, бо ўрад хоча быць зусім незалежным ад Сойму.

Надовячы зьбіралася й Адміністрацыйная Комісыя, якая хоча на гвалт прапіхнуць самаўрадовыя законы, якія маюць на мэце польскаю „рацыю Стану“.

### Міністар Мэйштовіч зьняважаны.

На апошнім паседжаньні Бюджэтавай Комісыі разглядаўся бюджэт Міністэрства Справядлівасьці ў прысутнасьці мін. Мэйштовіча. Асобныя паслы крытыкавалі політыку гэтага міністэрства асабліва за тое, што вельмі шмат вязьняў сядзяць у прэвэнцыйных вастрогах (да суда). Каб зьменшыць вялікаю лічбу вязьняў у прэвэнцыйных вастрогах Комісыя зьменшыла бюджэт на выжыўленьне такіх вязьняў на 135 тыс. зал. (Але ўрад можа пачаць горш карміць вязьняў).

Апрача таго, як дэмонстрацыя проці міністра Мэйштовіча, была паладзена прапазыцыя аб скасаваньні 100 зал. з бюджэту цэнтралі міністэрства. Гэтая пропазыцыя пры галасаваньні дастала большасьць і такім парадкам, Комісыя выказала недавер да міністра.

Яшчэ перад гэтым галасаваньнем адзін з паслоў, Прагер, востра крытыкаваў адносіны ўраду да законадаўчых уладаў за тое, што ўрад праз тэлефон паведамляў маршалка сэнату аб адкрыцьці сэсыі за 20 мінут (часінаў) да констытуцыйнага тэрміну, за неадказаваньне ўраду на паданыя інтэрпэляцыі ў папярэдняй сэсыі. Прычым пасол усё гэта назваў марным і нягодным выкрутам ураду.

У гэтым месцы мін. Мэйштовіч устаў і заявіў, што пакідае паседжаньне, бо крытыка ўраду задалёка йдзе. Цікава чым уся гэтая комэдыя кончыцца?!

### Новы віцэміністар асьветы.

На месца зволыненага віцэ-міністра Гайчака віцэ-прэм'ер Бартэль назначыў тымчасова Жлабіцкага, дырэктара Дэпартамэнту Пачатковых Школаў.

### Напад на турму.

29-га лістападу ўночы з нядзелі на панядзелак два няведамыя мужчыны з аружжам у руках напалі на турму ў Любічах і ўварваўшыся ў сярэдзіну будынку, кінуліся на двох наглядтікаў турэмных, з каторых аднаго застрэлілі, а другога замкнулі ў наглядніцкай хаце. Нападнікі выламалі далей дзьверы турэмных кануркаў, выпусьцілі адтуль 10-ёх політычных вязьняў і разам з імі ўцяклі ў няведамым кірунку.

### Спаганяюць злосьць.

Стараста Пшчынскага пав. ў Верхняй Сілезіі зволынены са службы за слабаю дзеяльнасьць ў вапошнія выбары ў Верхняй Сілезіі.

Трэба спадзявацца, што посьле політыкі надта дзеяльных у верхне-сілескім сойме будзе большасьць нямецкая.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Пакушэньне на Прымо дэ Рывэру.

Паліцыя арыштавала ў Мадрыдзе (Гішпанія) нейкага анархістага, каторы гатаваўся забіць Прымо дэ Рывэру, як і міністра ўнутраных справаў. У гасподзе (кватэры) арыштаванага знайшлі некалькі бомбаў.

### Змова проці Радам у Карэліі.

Газэты наказуюць, што ў Карэльскай рэспубліцы радавая чэка лучыла на сьляды змовы проці бальшавікоў у Карэліі. Шмат каго трасуць і арыштоваюць. У Карэліі абвешчана ваеннае палажэньне. Фінская граніца зачынена. Арыштаваных (ёсьць іх каля 200) віняць у сэпаратызьме (жаданьні адлучыцца) і спробе паўстаньня проці радавым уладам.

### Вэзуві выбухнуў.

З Рыму наказуюць, што вулькан Вэзуві выбухнуў у суботу нараніцы ў 4 гадзіне. Ужо ў пятніцу нараніцы зглецзілі над кратэрам вялікія клубы дыму, а акалічнае насяленьне пачула вялікае ўздрыгненьне падземнае. У суботу нараніцы замерлы кратэр адчыніўся, выкідаючы ляву і распаленае каменьне. Насяленьне ў жаху пакідае свае сялібы.

### Рэволюцыя ў Бразыліі.

Рэволюцыя ў Бразыліі пашыраецца. На бок рэволюцыянэраў перайшло ўрадовае войска ў провінцыях: Рыо Грандэ, Парана і Ст. Катарына. Ля Бэлявіста была бітва з рэволюцыянэрамі, з абодвых бакоў шмат ахвяраў.

### Паўстаньне ў Альбаніі.

Урадовае войска пабіла паўстанцаў. Думаюць, што яны ўцякуць на зямлю Сербо-Харвата-Славенскага каралеўства.

### Аб разбраеньню Нямеччыны.

Францускія газэты падаюць шэсьць пунктаў, спаўненьня каторых дамагаецца Францыя ад Нямеччыны.

Пункт першы датычыць крэпасьцяў Кенігсбэрга, Кістрыня й Глогава.

Пункт 2-гі перарабленьня на іншыя мэты 240 даўнейшых казармаў.

Пунтт 3-ці мае дамаганьні, каб была павялічана лічба муніцыпальнай паліцыі да 50 тыс. але адначасна была зьменшана да 100 тыс. паліцыя гаспадарсьцьвеная.

Пункт 4-ы забараняе ўжываць газы й танкі.

Пункт 5-ы забараняе вывозіць паўхвабрыкаты, каторыя могуць быць заграніцай перароблены на ваенны матэр'ял. Шостым пунктам забараняецца ваенная муштра спартовых таварыстваў.

Гэтага хоча Францыя, але вось

### Англія думае крыху іначэй.

Англія ёсьць таго пагляду, што зьністажэньне нямецкіх фортыфікацыяў на ўсходняй (польскай) граніцы Нямэччыны не вымагаецца Вэрсальскім мірам.

### Брыян аб нямецка-францускім зьбліжэньню.

30-га лістападу на паседжаньню францускага парламэнту міністар Брыян сказаў вялікаю палітычнаю прамову, пасьвячанаю пераважна адносінам паміж Францыяй і Нямэччынай. У гэнай прамове Брыян паміж інш. сказаў: Калі ня будзе зьбліжэньня паміж Нямеччынаю й Францыяй, дык ня будзе трывалага міру. Тым, што рашчараваліся з гутарак, ведзеных у Туары, трэба прыпомнец, што лёкарнскі трактат забавязуе ледзь тры месяцы і што перагаворы двух міністраў у Туары ня могуць-жа радыкальне зьмяніць француска-нямецкіх адносінаў і закасаваць крываваю мінуўшчыню. Толькі ўзаемная добрая воля і цяжкая памальная (паступовая) дарога перагавораў могуць вярнуць добрыя адносіны паміж Францыяй і Намеччынаю. Калі-б узьнікла новая вайна, ня было-б перапаможцаў і пераможаных, але надышоў-бы тады канец Эўропы.

Пад канец Брыян заявіў, што прынятак Лігаю Народаў ваеннага контролю над Нямеччынаю ня значыць зьменшаньня бясьпечнасьці Францыі, але наадварот — павялічэньне.

### Нямеччына й Італія.

Францускія газэты разглядаюць зь відавочным нездаваленьнем факт, што італьянскі дыктатар Мусоліні выступіў зь ініцыятываю зрабіць арбітражнаю ўмову з Нямеччынаю.

Публіцысты думаюць, што пад арбітражнай умоваю хаваецца ня толькі звычайнае зьбліжэньне, але формальны саюз; левы „Quotidien“ кажа, што гэтакі саюз быў-бы перадусім зьвернены проці Францыі.

Асноваю нямецка-італьнскага зьбліжэньня мае быць супольнае жаданьне перагляду колёніяльнага статуту, у чым Рым і Бэрлін адналькава зацікаўлены.

Італьянцы гатовыя за гэта падзьдзержыць, эвакуацыю Рэйну і магчыма некаторую зьмену становішча на прылучэньня да Нямеччыны Аўстрыі.

Каб перашкодзіць ініцыятыве Мусоліняга францускі політык Bainville радзіць Брыяну зрабіць чацьвертае паразуменьне, паміж Францыяй Англіяй, Італіяй і Нямеччынай.

### Нарада чытырох міністраў.

Адгэтуль па сэсыі Рады Лігі Народаў зьяўляецца патрэба нарады чатырох міністраў: Брыяна, Мусоліні, Шамбэрлена і Стрэсэмана. Гэтая сустрэча ўжо пастаноўлена і на гэтаю нараду Нямеччына ўжо папрошана. *Але нямецкі міністар свае згоды яшчэ ня даў*, заявіўшы, што паедзе толькі тады, калі справа ваеннага контролю Нямеччыны будзе прыхільна для Немцаў развязана Лігаю Народаў.

### Паўстаньне ў радавай Украіне?

Польскія газэты наказуюць, што ў шмат якіх мясцох радавай Украіны ўзьнікла паўстаньне, каторае мае нацыянальны характар і скіравана проці Маскоўшчыны.

## Пішэце ў „Сялянскую Ніву“

аб усім, што вам баліць і што вам дарага: аб зьдзеках і крыўдах дазнаваных ад адміністрацыі і іншых, аб зямлі, аб беларускай сьведамасьці, аб асьвеце (школы і інш.), аб войтах, валасных радах і паветавых сойміках, пішэце аб добрых учынках, каб людзі зь іх вучыліся, і аб благіх, каб адхінуць ад благога.

Пісаць трэба праўду. Хто ня хоча, каб ведалі яго праўдзівае прозьвішча, можа падпісавацца прозьвішчам выдуманым (мянюшкай), а побач з гэтым напісаць толькі першы раз сваё праўдзівае прозьвішча і адрэс для ведама рэдакцыі. Рэдакцыя сваіх корэспандэнтаў нікому не выдае.

Помнеце, што «Сял. Ніва» ёсьць газэтай усіх Вас, а дзеля гэтага жыцьцё кожнага вашага кутка мае адбівацца ў ёй як у люстры.

## НАШАЯ ПОШТА.

**А. Кезіку** — газэту на прысланыя адрэсы і вам пасылаем.

**Хмяльніцкаму Ул.** газэту пасылаем.

**М. Лавышу** — газэту і Праграму Сялянскага Саюзу пасылаем.

**Сяргею Пяюну, Францішку Малецкаму, Э. Крэчку:** грошы дасталі, Беларускі Народны Календар паслалі.

## БЕЛАРУСКІЯ ЗАГАДКІ.

37. З вакна ў вакно залатое верацяно.
38. Ідзе па саломе дый ня шастае.

*Адгадкі* загадак з № 41—35) зоры, 36) вярцяха, качалка й семя канаплянае.

## Беларускія прыказкі.

Браць саколія вочы, а адгадаваць совія.
Доўг цяляці не прывядзе.
Загадкі й прыказкі падаў *Арсень Свяртопа.*

## АБВЕСТКА.

Кабі-б хто што-колечы ведаў аб патомках **ТАНЧАКА**, каторы каля 1700 году пераехаў з Беларусі (дзе ён быў упраўляючым дварамі Патоцкіх) у двор Патоцкіх у Луцэ (каля Усьця Зялёнага), Бучацкага павету ў Галіччыне,—няхай зробіць ласку паведаміць па адрэсу: Československo, Praha, Hlavni Pošta, prihradka 411. „Cesus“ pro p. Mykolu Masiukevyče.

Іншыя беларускія газэты просім перадрукаваць.



Рэдактар і выдавец **Ст. Вольскі.**

Беларуская Друкарня ім. Ф Скарыны.—Вільня, Людвісарская 1.